Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 50 Чацьвер, 11-га Сьнежня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар.— 5 гр.

## Конфэрэнцыя настаўніцтва.

Мы нядаўна паведамлялі сваіх чытачоў аб тым, што ў Вільні заснавалася новая беларуская культурна - прасьветная інстытуцыя — Таварыства „ПРАСЬВЕТА“. Статут Таварыства зацьверджаны ўладамі, інстытуцыя гэта саўсім легальная і мэтаю яе зьяўляецца культурна - прасьветная дзеяльнасьць сярод беларускага насяленьня. Часовы ўрад Таварыства „Прасьвета“ склікае настаўніцкую конфэрэнцыю, назначаную на 18 гэтага сьнежня.

Мэта конфэрэнцыі—абгаварыць справу роднага школьніцтва і тыя способы, якімі справу гэтую можна будзе разьвіць да пажаданае для беларускіх народных масаў меры.

Дасюль мы чулі толькі скаргі беларускага сялянства, што яму не даецца навет свая пачатковая школа, без якой народ ужо ня можа абходзіцца.

Хай-жа самі сыны нашага сялянства, зьехаўшыся ў Вільні, ўсебакова разгледзяць палажэньне балючае, ў дасюлешняй форме, школьнае справы і хай знойдуць спаміж сябе даволі сілы на тое, каб павясьці гэтую справу жыцьцёвым шляхам бяз ніякага, лішняга саўсім, палітыканства.

Бо дасюль асобы, трымаўшыя „Божаю міласьцяй“ манаполь на ўвесь беларускі рух, завялі ўсю нацыянальную беларускую справу, а разам з тым і бязьмерна важную справу роднае школы, ў поўны тупік.

У тупіку сядзець нельга, дзеля таго, што далей ісьці няма куды.

Гэта добра разумеюць тыя настаўнікі, якія зарээстраваліся ў свой час у Школьнай Камісіі Часовае Беларускае Рады. Іхняе жаданьне працаваць на ніве народнае прасьветы ўжо блізка да зьдзейсьненьня.

Трудна прадбачыць, як пайдзе справа роднага школьніцтва—туга ці шпарка — гэта ў значнай меры залежыць ад нашае нацыянальнае беларускае энэргіі. Адно ясна, што скранууцца з месца гэтая справа мусіць, бо тэтага не сягоньня ўжо вымагае само жыцьцё.

І мы сьмела, з поўнай надзеяй на лепшую будучыну, клічам гаротнае беларускае настаўніцтва да таго, каб яно само арганізованна й спакойна ўзялося за вялікую справу народнай прасьветы, згодна з тымі законнымі магчымасьцямі, якія павінны істнаваць ня толькі фармальна, але й фактычна.

Трэба спадзявацца, што дзяржаўная ўлада зразумее, нарэшце, важнасьць момэнту і раз назаўсёды паставіць крыж на тэй школьнай палітыцы на *крэсах,* якая была шкадліваю, як для беларускага народу, таксама і для самое дзяржавы.

Прасьвета народу зьяўляецца задачаю кожнага цывілізованага гаспадарства і найкарацейшы спосаб пашырэньня яе сярод шырокіх народных масаў—гэта навука на роднай матчынай мове.

Фармальна нам ужо няма што гэтага дабівацца, бо гэта нармуецца законам 31 ліпня 1924 г. аб арганізацыі школьніцтва, а фактычна мы мусім арганізавацца, каб плянова і спакойна тварыць сваю родную справу.

Калі-б, ня гледзячы на ўсе нашы нацыянальныя натугі, нельга было паставіць школьную справу так, каб яна была выкрэсьлена жыцьцём з раду тутэйшых крэсовых балячак, дык тады адпавядальнасьць за пасьледзтвы панясе той, хто стане гэтай справе на перашкодзе.

Але хто пасьмее ўстаяць проці законнае волі народу мець свае родныя школы, мець магчымасьць пусьціць, нарэшце, сьвятло ў убогую беларускую хату?

Магчыма, што выробленыя дэмагогі, ў мэтах свае палітычнае кар'еры, будуць мітынгаваць да бесканечнасьці, будуць публічна перад народам абліваць славеснымі памыямі ініцыятараў вялікае справы рэалізацыі народных школьных жаданьняў, але сама чыстата гэтае справы змусіць навет і тых, хто завяз на гразкім шляху палітыканства, стыдацца сваіх малакультурных способаў бэсьціць і ганіць тое сваё роднае дзела, якое робіцца ня іхнім розумам і ня іхнімі маладзольнымі рукамі.

Як-бы ні быў цярністы шлях творчае прасьветнае працы, па ім павінны пайсьці ўсе сапраўдныя сыны свайго гаротнага народу, ў імя лепшае сьветлае будучыны надходзячых пакаленьняў, у імя тае бядацкае дзятвы беларускае, якая расьце цяпер у цемры і галіце, пакрыўджаная разам з бацькамі сваімі нябывалымі сусьветнымі патрасеньнямі, давёўшымі народ наш да гаспадарчага занядужаньня.

Настаўніцкая конфэрэнцыя склікаецца можа з некаторым спазьненьнем, але-ж вялікая справа прасьветы павінна рабіцца „лепей позна, чымся ніколі“, — як кажа мудрая народная прыказка.

## Лекцыя В. Чарнова.

Польскія соцыялістыя, як ведама, ўтварылі супольны фронт з расейскімі соцыяль - рэвалюцыянэрамі для змаганьня з бальшавізмам. На аснове гэтага паразуменьня, лідэр расейскай соцыяль-рэвалюцыйнай партыі, бyўшы міністар земляробства ў часы ўраду Керэнскага і старшыня расейскай конституанты Віктар Чарноў выступіў з лекцыямі ў розных гарадох Польшчы, пачынаючы ад Варшавы, ў якіх апісваў палажэньне ў С. С. Р. Р., і ў нас у Вільні прачытаў дзьве лекцыі: адну ў суботу 6 сьнежня на тэму „сучаснае палажэньне ў С. С. Р. Р.“ і другую ў нядзелю 7 сьнежня на тэму „палажэньне рабочых у С. С. Р. Р.“.

Першую лекцыю В. Чарноў пачаў ад апісаньня страшэннага палажэньня вастрожнікаў на Салавецкіх астравох. У той час, як буржуазная Францыя зусім спыніла ссылку крымінальных і палітычных у Гвіяну (французская калёнія на поўначы паўднёвай Амэрыкі з надта нездаровым кліматам), бальшавікі, зьдзекуючыся над сваімі палітычнымі праціўнікамі, дайшлі да неправўдападобнага. Страшэнствы Шлісэльбурскай крэпасьці найстрашнейшых часоў нішто перад страхацьцём Салавецкіх астравоў. Салоўкі ў працягу шасьцёх месяцаў у год бываюць зусім адрэзаны ад контынэнту лёдам і праз гэты час не даходзяць туды ніякія весткі. Значыцца, што-бы там ні здарылася ў гэты час, сьвет даведаецца аб гэтым толькі праз 6—8 месяцаў, калі нельга ўжо памагчы. Па прыкладу Салавецкіх астравоў бальшавікі наладзілі новыя іншыя вастрогі для палітычных на поўначы Расеі і ў Сыбіры. Ссыльныя на Салавецкіх астравох—гэта амаль што ня ўсе соцыялістыя меншавікі і соцыяль-рэвалюцыянэры, тыя, якія раней змагаліся з царскім самадзяржаўем, запаўняючы царскія вастрогі і катаргу. І толькі ў апошні час пачалі прыбываць на Салоўкі кранштадзкія матросы і студэнты.

Далей лектар прадставіў безнадзейнае эканамічнае палажэньне С.С.Р.Р., адзіным выхадам з якога ёсьць заграмічная пазыка. Але там напэўна ня ўдасца адтрымаць чужаземнае пазыкі, дзеля таго, што заграмічныя капіталістыя, якія маюць свабодныя капіталы, (а гэткія ёсьць толькі ў Амэрыцы), дамагаюцца ад савецкага ўраду гэтакіх шырокіх эканамічных і палітычных гарантыяў, на якія бальшавікі ніколі ня згодзяцца, дзеля таго, што гэта ўтварыла-б новую дзяржаву ў дзяржаве, а роля савецкага ўраду абмежавалася-б рольлю абаронцы чужаземных капіталістых.

Лектар даў кароткую характарыстыку галоўных павадыроў у С.С.Р.Р. Першае месца па свайму значэньню і сваёй велічыні займае Ленін. Але В. Чарноў ня прызнае Леніна гэніяльным. Яго розум быў надта агранічаны. Ен ніколі ня мог абхапіць усяго палажэньня. Ен заўсёды выбіраў адну нейкую галіну і тут даводзіў усё да над'звычайнай ясьнасьці. Затое ён ад'значаўся нязвычайна сільным характарам і ніколі не затрымоўваўся ні перад якімі труднасьцямі, ня гледзячы на ніякія ахвяры. Ен ніколі не сумаваў ад няўдачаў. Адмяніўшы ўчарашнюю няўдачную пастанову, ён казаў: „але, ўчора я вам казаў гэтак, сёньня кажу так, а заўтра можа быць скажу яшчэ інакш. Раз не ўдалося, ў другі раз ня ўдасца, у соты ня ўдасца, але ў сто першы ўдасца. Дзеля гэтага будзем прабаваць“. І ў крытычныя мінуты, калі ўсе абкружаўшыя Леніна трацілі галаву, ён адзін быў зусім спакойны і як-ніяк выцягваў савецкі воз з балота. Дзякуючы гэтаму, ў партыі ўмацавалася перакананьне, што Ільіч вывезе. І, дзеля гэтага, сьлепа верылі ў тое, што ён казаў.

Другая асоба, Троцкі, які ставіўся заўсёды побач з Леніным, не карыстаўшыся аднак гэткай папулярнасьцю. Праўда, яго вага большая за вагу „тройкі“ (Каменева, Зіноўева і Сталіна), але слабасьць яго ў тым, што ён ня мае за сабой у партыі мінуўшчыны. Як прамоўца ён над'звычайны. Надта горды. Любіць парады і вонкавыя віды аказаньня пашаны. Але гэта ад'знака ўсіх сярэдніх людзей. Але, як ваенны арганізатар, ён над'звычайны. Знаўцы ваеннай справы ставяць яго, як ваеннага міністра, на першае месца.

З „тройкі“, якая лічыцца старой гвардыяй Леніна, толькі адзін Сталін ёсьць вялікшай фігурай. Ен надта добры арганізатар. Каменеў—закулісны партыйны інтрыган, гэта камуністычны Лёрыс-Мелікоў. Зіноўеў—грамафон Леніна. Ен здабыў сабе папулярнасьць тым, што ўмеў акуратна і бяз спрэчкі перадаваць волю Леніна. Папулярнасьцю не карыстаецца. Лю-

біць роскаш. Дзяржынскі—гэта аскет. Ен мае і сымпатычныя рысы—і самыя агідныя. Як быў яшчэ маладым хлопцам, на катарзе, казаў, што ў часы рэвалюцыі бываюць і высокія ролі і самыя гадкія. І ён узяў для сябе апошнюю, ролю ката бальшавіцкай рэвалюцыі. Але самай выдатнай асобай у цяперашні момэнт ёсьць Красін. Гэта па спэцыяльнасьці інжынер. Багаты. Мае свае ўласныя капіталы ў Швэцыі. Стары бальшавік, але далучыўся да бальшавіцкай рэвалюцыі толькі тады, як яна кончылася. Толькі адзін Красін, як кажуць самі камуністыя, мае ясную і рэальную праграму.

У канцы лектар закрануў тры магчымасьці для бальшавікоў: **эвалюцыю, бонапартызм і раптоўны крах.** Шмат хто спадзяецца эвалюцыі бальшавікоў, г. зн. паступовай зьмены іхняе ўлады і зьліцьця з дэмакратычнымі партыямі, пазываючыся на іх эвалюцыю ў эканамічнай палітыцы, праведзенай у апошнія гады. Але эканамічная эвалюцыя тлумачыцца немагчымасьцю эвалюцыі савецкае ўлады. Дзякуючы сваёй неабмяжованай уладзе, савецкі ўрад можа аслабляць вяроўку, на якой трымаецца эканамічнае жыцьцё. на якую хочаш адлежнасьць, дзеля таго, што ў кожную часіну можа назад зматаць яе ў клубок. А са свабодай палітычнай гэтага зрабіць нельга.

Бонапартызм ня можа быць у С. С. Р. Р. па прыкладу Францыі, дзеля таго, што там зусім інакшыя варункі. Ува Францыі пасьля рэвалюцыі была аграмадная прорва між краем і арміяй. Край быў у палажэньні поўнага развалу. Партыі засналіся толькі ў часы рэвалюцыі. Робэсп'ер, Дантон, Марат, зьніштожыўшыя адзін аднаго, таксама былі высунуты толькі рэвалюцыяй і калі іх ужо ня было, партыі разваліліся. А ў арміі было ўсё найлепшае. Гэта была гордасьць краю. Яна карысталася агульнай славай, дзякуючы сваім перамогам.

Зусім што іншае ў С. С. Р. Р. -У С. С. Р. Р. перш-на-перш ёсьць старыя партыі з гістарычнымі традыцыямі, са сваімі мучальнікамі і апосталамі, якія зморaны, аслаблены фізычна, але ня зьніштожаны і сільны духам. А апроч таго й чырвоная армія не займае гэткага месца, якое мела француская ў эпоху рэвалюцыі. Калі Леніну казалі, што бальшавікі перамаглі дзеля таго, што белыя арміі нічога ня варты, дык ён адказваў: „а наша няўжо-ж лепшая? і белыя арміі разлагаліся, і наша разлагалася; толькі наша разлагалася памалу. Дзякуючы гэтай розьніцы мы й выратаваліся".

Урэшце справа трудная, каб знайсьці самога Бонапарта. Сярод царскіх гэнэралаў няма кандыдатаў. Бонапарта павінна радзіць самая рэвалюцыя, як радзіла рэвалюцыя Напалеёна. Гэткім мог-бы быць у С.С.Р.Р. толькі Троцкі. Шмат хто з гэнэралаў навет думаў аб гэтым. Толькі перашкаджае яму яго жыдоўскае паходжаньне, з якім ня могуць пагадзіцца старыя расейскія гэнэралы. Гэткім чынам, бонапартызм у С. С. Р. Р. зусім немагчымы.

Застаецца апошняя магчымасьць—раптоўная катастрофа бальшавізму. Дня гэткай катастрофы ніхто ня можа прадбачыць, як ніхто ня ведаў дня катастрофы царскага рэжыму. Усе спадзяваліся і былі пэўны, што яна прыйдзе, але ніхто ня думаў, што гэтак хутка і раптоўна. Дзень катастрофы бальшавізму яшчэ трудней прадбачыць, дзеля таго, што няма магчымасьці сачыць за ўзростам варожых да бальшавізму сіл у С.С.Р.Р.

Цяпер застаецца толькі адказаць на пытаньне, хто прыдзе на зьмену бальшавікоў. Монархістыя перакананы, што яны. Кірыл Уладзіміравіч ужо раздае міністэрскія і губэрнатарскія пасады. Мікалай Мікалаевіч „прыняў" камандаваньне арміяй. Але гэта шум, апынуўшыхся за межамі бацькаўшчыны, эмігрантаў. Той абмыляецца, хто думае, што ў селяніна захавалася любоў да монархіі. Рускага селяніна можна параўняць з тым грэшнікам, якога ўвесь час жарылі ў пекле на скавародах адным бокам. На пагляд селяніна цар—гэта першы абшарнік, за якім прыдуць пасьля тысячы новых. Дзеля гэтага, расейскі мужык, гэтак як той грэшнік, лепш хоча пацярпець боль з аднаго боку, чымся быць перавернутым на стары, з якога монархія прыпякала яго ў працягу сотак гадоў.

На зьмену бальшавікоў можа прыйсьці толькі працоўная інтэлігэнтная дэмакратыя, якая будзе апірацца на сялянства, каторае значна ўзмацавалася і вырасла пасьля рэвалюцыі з палітычнага боку і найменш пацярпела з эканамічнага. Палітыка новага сялянска-дэмакратычнага ўраду ў адносінах да сваіх суседзяў будзе пранікнута мірнымі тэндэнцыямі, дзеля таго, што ўся яго ўвага будзе скіравана на творчую работу. Ніхто ня дасьць яму грошай на ўтрыманьне вялізнай арміі. Толькі тады — закончыў лектар — могуць быць праведзены ў жыцьцё ідэалы Макдональда і Эрыё датычна агульнага міру, якога ня будзе, пакуль у Расеі не ўпадзе бальшавізм і ня прыйдзе на зьмену яго сялянска-дэмакратычны ўрад.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

У Варшаве ў салі гігіенічнага таварыства 8. XII. адбылася ўрачыстая акадэмія ў чэсьць 90-х угодкаў нараджэньня сэнатара Баляслава Ліманоўскага (P. P. S.).

На паседжаньні Рады Міністраў 9 сьнежня пастаноўлена стварыць «Крэсовую Раду», зложаную з прэзэса і 3-х сяброў, якім будзе служыць права кооптацыі. Прэзэсоўства ў Радзе запрапанована быўшаму Дэлегату Ураду на Віленшчыну п. Роману, які яшчэ ня даў свайго адказу, ад якога залежыць пушчэньне ў рух працы «Крэсовай Рады». Прозьвішчы іншых сяброў Рады яшчэ не устаноўлены. Пасьля паседжаньня Рады Міністраў засядаў Палітычны Камітэт дзеля абгавораньня крэсовых справаў і заграгічнае палітыкі.

У ночы з 9 на 10 сьнежня арыштавана пара студэнтаў Варшаўскага Унівэрсытэту, вядомых у шырокіх кругох моладзі. Прычыною арышту зьяўляецца падазрэньне ў камуністычнай дзеяльнасьці.

Міністар Гандлю і Прамысловасьці прыняў партугальскага пасла ў Варшаве Васко-дэ-Квэвэдо, які запрапанаваў польскаму ўраду заключэньне польска-партугальскага гандлёвага дагавору. Прапазыцыя гэта прынята прыхільна.

**За граніцай.**

У **Рыме (Італія)** адбываюцца цяпер паседжаньні Рады **Лігі Народаў.**

З **Вены** тэлеграфуюць, што **баўгарская** паліцыя арыштавала атамана Пандульскага падчас ліквідацыі яго бандаў. Пандульскі быў на утрыманьні ў бальшавікоў і адтрымліваў вялізныя грошы з **Масквы**.

У **Румыніі** ў ваенным судзе пачала разьбірацца справа вялікае шпіёнскае арганізацыі, ў якую замешана каля 35 чалавек, у тым ліку шмат жанчын, галоўным чынам, артыстак. Яны абвінавачваюцца ў шпіёнстве на карысьць савецкага ўраду.

**Эстонскі** ўрад афіцыяльна запярачае чуткам аб частковай мобілізацыі арміі і збору яе на савецкай граніцы.

На выбарах у Рэйхстаг у **Нямеччыне** перамагаюць дасюль соцыяль-дэмакраты. Устаноўлена, што галасавала аж 81 проц. выбаршчыкаў, маючых права на галасаваньне. Соцыяль-дэмакраты маюць, пакуль што, 121 мандат, нацыяналістыя 100, народная партыя 50, Völkische 14, дэмакраты-цэнтравікі 32, камуністыя 43, баварская народн. партыя 17, гаспадарчая партыя 10. Рэйхстаг будзе скліканы 7-га студня. Не хапае ведамасьцяў аб рэзультаце выбараў ува Усходняй Прусіі.

**Францускі** міністар унутраных справаў выдаў загад аб незабаўным высяленьні з **Францыі** 60-х камуністых чужаземцаў, у тым ліку 43 італьянцы, 6 палякоў, 7 бэльгійцаў, 1 сэрб, 1 швэйцарац, 1 швэд і 1 немец.

**Бэльгійскі** ўрад распарадзіўся ня пушчаць на сваю тэрыторыю ўсіх тых камуністых, якіх высяляе **Францыя**.

Староньнікі Заглюля-Пашы ў **Эгіпце** падалі каралю Фуаду дзьве пэтыцыі: ў аднэй яны дамагаюцца скліканьня парлямэнту, а ў другой абвінавачваюць кабінэт у нарушэньні Констытуцыі, дзеля таго, што новы ўрад не патрэбаваў дасюль ад парлямэнту вотуму даверыя.

# Агляд прэсы.

„Przegląd Wileński" піша ў справе ўвядзеньня ў нашым краі выняткавага стану:

Ня гледзячы на тое, што напады дывэрсыйных бандаў у апошнія колькі тыдняў спыніліся, рэакцыянэры ўсялякага роду не перастаюць дамагацца ўвядзеньня на „Крэсах" выняткавага стану...

Цікаўна выступленьне новага віцэ-прэм'ера п. Тугута, які заявіў, што ўвядзеньне выняткавага стану не ўваходзіць у пляны ураду, дзеля таго, што на яго пагляд палажэньне зусім ня так страшнае, каб трэба было рабіць гэткія захады.

Узапраўды адміністрацыйная ўлада ў нас мае гэтак шырокія поўнамоцтвы, што навет выняткавы стан толькі ў нязначнай меры можа іх пашырыць. Дык-жа бязупынна чытаем ды чуем аб масавых вобысках на вёсках, аб высылцы „непажаданых чужаземцаў", аб doraźnych судох, аб нічым неабмяжованай дзеяльнасьці палітычнай паліцыі, аб пашпартных труднасьцях, аб шырокіх поўнамоцтвах старастаў і ўрадовых камісараў, якія могуць засуджваць грамадзян за неспаўненьне загадаў улады на 3 месячы вастрогу! Гэткай уладзе маглі-б пазайздраваць навет даўнішнія расейскія губэрнатары, калі яны не ўрадавалі на падставе ўсіленнай ахраны! Калі да гэ-

---

К. СТЭПОВІЧ.

# Янка Канцавы.

**Вясковая драма ў 5 дзеях.**

*(Глядзі № 49 „Грам. Голасу").*

**(Янка).**

А я працую з мысьлямі гарачымі, думкамі лятуценьня аб роднай Бацькаўшчыне — і ім гэта хацеў-бы перадаць. Не паддаюцца... Ці грунт благі, ці сейбіт няўдалы? (*Думае*). Але каб што збудаваць, трэба ахвяры. Будыніна, да каторай я кладу сваю цэглу, мае быць вялікая. Вялізарных, значыцца, трэба і ахвяраў. Можа і з мяне трэба... Я яе палажыць гатоў! Па мне прыдуць другія... І адновім нашу Родную — Мілую — Харошую — Скрыўджаную... Такую сьветлую, высокую... аж да зор паднябесных: (*з лятуценьнем*):

Гдзе душы бацькоў нашых іскрамі сьвецяць,
І праўда пануе ў згодзе з жыцьцём;
І дух мой і сэрца стралой туды мецяць
Пылаць Ідэалу адвечным агнём...

ЗАСЛОНА.

## ДЗЕЯ III.

**Язэп — Янка — Юрась — Бэрка.**

*Хата Юрасёвых бацькоў. Позна. У хаце ложак. На ім сьпіць мужчына — ўжо стараваты. Пры сьцяне шафа. Услончык. Стол. Лямпа.*

### ЗЬЯВА 1.

**Язэп** (*чухаецца і пазеўвае*). Га, трохі стары падла, добра той казаў, здрамнуў. Гэта-ж ужо й позна Ляжы тут адзін, стары падла. Баба не вярнулася яшчэ з талакі ад суседа. (*Устае*). Сын недзе бадзяецца. Пэўне ў Бэркі, падлец. Які бацька, такі й сын — а мо' яшчэ й горшы. Любіць гарэлку, а да працы невялікі ахвотнік. Эх, гарэлка, гарэлка! Ухадзіла яна маладога калісьці Янкавага бацьку... Добрага чалавека..., Есьці, падла, хочацца. (*Ідзе да шафы. Дастаець пустую бутэльку*): Пустая, падла! (*Дастаець другую*): Га, тут чарачка, нябольш! (*П'ець смакуючы, моршчыцца, хавае бутэльку, закусвае, крышкаю хлеба*). Але-ж няма доўга і яго. Што-ж тут рабіць? Спаць ня хочацца. (*Сумляваецца. Дастае з-пад паяса люльку, красіць агонь*). Ісьці ці ня йсьці? (*Варожыць на пальцах*) Ісьці — ня йсьці; ісьці — ня йсьці. Ну, значыць, трэба йсьці. Ен пэўна ў Бэркі. Праганю да хаты. Найгорш з гэтымі дзяцьмі!.. Ад гарэлкі не адвучыш! (*Выходзіць*).

### ЗЬЯВА 2.

*Хвіліну хата пустуе. Уходзіць* **Янка**.

**Янка** (*адзін*). Нікога няма... Ня ў добры час прышоў. Трэба чакаць. Позна: павінен зара надыйсьці. Так хацелася-б з ім шчыра пагаварыць. Няўжо ён такі задорны, няўжо ніколі са мной ня сойдзецца? А шкода Юрася. Хлопцы ідуць за ім, як за правадыром. Ня цэніць гэтага. Прагадаў толькі хадзіць да Бэркі ды звадзіць дзяўчат. Дзіўная натура, а мілая— міма такіх заган, каторых не адробіш. Трудна мне. Заўтра выпадае фэст і кірмаш у мястэчку. Будзе п'янства.. А мы-ж разам з ім гадаваліся. Меў нейкі іншы склад: уважнейшы і глыбейшы. Вучыцца прабаваў і памяць меў... Дарогі нашы аднак разышліся. Я біўся з сваім нявуцтвам — ён блутаўся ўсюды, ўсё чагось шукаючы: мо' самога сябе...

Але цяжка мне нешта сягоньня. Зьядае жуда нейкая. Сэрца нешта благое прарочa...

тага дабавіць, што няма ў нас судоў прысяжных ані нармальна функцыянаваўшых самаўпраўленьняў, што школьная ўлада робіць, што хоча, не зьвяртаючы увагі на дамаганьні і патрэбы мясцовага насяленьня, дык будзем мець больш-менш поўны абраз таго, якія пануюць адносіны ў нашым краі. Дык навошта-ж уводзіць выняткова стан, калі — як гэта зусім правільна адзначыў п. Тугут—гэта было-б толькі перамянай вывескі.

Выняткова стан у нас фактычна істнуе і фармальнае яго апавешчаньне амаль што ні ў чым не перамяніла-б палажэньня, апрача хіба большага абмежаваньня свабоды прэсы і немагчымасьці ўмешвацца паслом у выпадках надужыцьцяў адміністрацыі. Рэч зусім зразумелая, што дзеля гэтага, галоўным чынам, эндэцыя хоча пазбавіць нас навет тых скромных констытуцыйных свабодаў, якімі цяпер яшчэ можна тут карыстацца. Яна мае небеспадстаўную надзею, што опозыцыйныя элемэнты, асабліва ня-польскія, будуць мець тады шчыльна завязаныя вусны і будуць аканчальна прыгнечаны, тады як рэакцыя грамадзкая і нацыянальная, дзякуючы сваім уплывам і адносінам з важнымі асобамі, будзе мець разьвязаныя рукі. Ня трудна бачыць, што вось гэткую тайную мэту маюць стараньні эндэцыі, якая кажа толькі аб супакоеньні краю і аб бясьпецы насяленьня, аб ладзе і парадку.

Толькі нехта надта наіўны можа думаць, што выняткова стан можа ашчасьлівіць нездаволенае насяленьне і зрабіць яго больш лёяльным і прывязаным да дзяржавы. Ведама адміністрацыйны аўтократызм можа лёгка пры помачы рэпрэсіяў здушыць вонкавыя праявы нездаволеньня, але ня зьнішчыць яго прычынаў. Нездаволеньне, спыненае звонку і ўпіхнутае ўглыб грамадзянства, пранікае глыбей і ў канцы канцоў як скондэнсаваная сіла разрывае будынак. Дык-жа ведама з дасьведчаньня, да чаго давяло Расею сталыпінскае: „Раней успакаеньне, а пасьля рэформы...“

Навет эндэцыя ня можа даць ніякіх прыкладаў чынных праяваў накіпеўшага ў насяленьні нездаволеньня апрача выпадкаў бандытызму, які дык-жа лёгка можа спыніць энэргічная і добра сарганізаваная паліцыя... Эндэцыя кажа аб абмылках у палітыцы польскага ўраду, якія цавялі да няпрыхільных для дзяржавы настрояў сярод насяленьня, якіх ніяк не паправіць выняткова стан. Значыцца, вайсковае асаднiцтва, хаотычнае і бязьлітаснае зьбіраньне вялікіх падаткаў, няўмелая адміністрацыя. Мы з свайго боку дакінем: адносіны да гэт. наз. „нацыянальных меншасьцяў“, якія на ўсім абшары літоўска-беларускіх і украінскіх земляў складаюць бязумоўную большасьць, як да грамадзян другога сорту, спэцыяльныя прывілеі для польскасьці і пашыраньне яе прымусовымі спосабамі, бястактнасьць улады, крайні цэнтралізм і фіскалізм, незацікаўленнасьць з эканамічнага боку і г.д. Няўжо-ж гэтага ўсяго ня годзі, каб стварыць масы нездаволеных ува ўсіх сфэрах і якім чынам гэтым недахватам і балячкам паможа выняткова стан?...

---

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Аэропляны людзі ведалі ўжо 13.000 гадоў назад!

Нью-Іорскі корэспондэнт „Daily Express“ паведамляе, што ангельскі афіцэр James Churchward разам з некалькімі будыйскімі вучонымі расшыфраваў 125 таблічак з надпісамі, знойдзеных у пэўны час у Індыі. З гэтых надпісаў відаць, што калыскаю чалавецтва быў тропічны контынэнт, які павінен быў выглядаць значна большым за Паўночную Амэрыку. Гэты контынэнт, які называўся „Му“, затануў 13 тысяч гадоў назад у глыбінях Ціхага Акіяну. Там, а не ў Малой Азіі, быў 50 тысяч гадоў назад біблейскі рай.

З таблічак відаць таксама, якім было палажэньне культуры ў „сонечнай дзяржаве Му“ і выкрыўшыя гэта даводзяць, нібыто цывілізацыя гэтае затануўшае часьці сьвету значна перавысіла ўсе здабыткі пазьнейшых цывілізацыяў.

— Людзі, якія тады жылі, — кажа James Churchward,—мелі пэўныя таямніцы вынаходаў, сьляды якіх з ходам сталецьцяў саўсім загінулі. Калі можна верыць вышэйспомненым таблічкам, дык тагочасныя войскі мелі ўжо тады ў сваім распараджэньні самалёты, вазіўшыя ў паветры па 20 чалавек адразу. Самалёты тыя лятали пры помачы моtораў вельмі простае конструкцыі, аснованай на выкарыставаньні тых сілаў прыроды, над якімі цяперашняя навука толькі стараецца рабіць досьледы. З надпісаў на таблічках відаць, што гэнэрал па прозьвішчы Рамхандэр адбыў на гэткім самалёце надарожу з сталіцы Цэйлён аж у Паўночную Індыю. У тыя часы ўжо вядомы быў порах і агнястрэльная зброя.

Тую таямнічую часьць сьвету зруйнавалі два катастрафічныя землятрасеньні, апошняе з якіх здарылася 13.000 гадоў назад. Вялізарны контынэнт затануў у глыбінях акіяну разам з жыхарамі, палацамі, вялізарнымі местамі, ўраджайнымі палямі і г. д.

Прычыну гэткага катастрафічнага землятрасеньня тлумачаць асаблівым спосабам. Контынэнт нібыто асноўваўся на вялізных пад'земных лёхах, напоўненых газам. Вульканічныя ўзрывы давялі да затапленьня тае часьці зямлі. Толькі драбнейшыя яе кавалкі, абапёртыя на мацнейшых асновах, засталіся цэлымі. Гэтак, напрыклад, Сандвічавы вастравы трэба лічыць рэштаю тае затопленае часьці сьвету. Разьбітыя астаткі таго контынэнту. раптоўна пазбаўленыя ўсялякіх успамагальных спосабаў, спусьціліся на найніжэйшы ровень цывілізацыі, апушчаючыся ў барбарства і канібалізм.

Цікава, як глядзяць на падобныя вывады ангельскага афіцэра цяперашнія **знаўцы** дагістарычных часоў? Слова за імі.

### Культура краю вечнага сьнегу.

Прыехаўшыя ў Копэнгагэн два сябры экспэдыцыі дацкага полярнага дасьледчыка Кнуда Расмусэна паведамляюць аб цікавых рэзультатах апошняе падарожы Расмусэна па тэрыторыі эскімосаў. Экспэдыцыя прайшла вялізны абшар ад Грэнляндыі цераз паўночную часьць Бафінавай зямлі і ўдоўж Канадзкага берагу Аляскі. На Барэнавай зямлі каля затокі Гудзона былі знойдзены сьляды культуры старадаўнейшых эскімосаў.

Экспэдыцыя натрапіла на эскімосаў, якія дасюль яшчэ наагул ня бачылі іншых людзей і аб істнаваньні якіх дасюль нічога ня было вядома. Усё гэтае эскімоскае племя складаецца з 500 душ мужчын, жанчын і дзяцей. Яны кормяцца, галоўным чынам, аленямі і белымі медзьвядзямі. Яны малога росту і худашчавыя, што тлумачыцца недахватам кармленьня падчас блізу штогодных пэрыядаў голаду, якія надходзяць тады, калі паляваньне не дае патрэбнае стравы. Яны меншыя ростам за эскімосаў на Грэнляндыі, ў якіх ёсьць ужо дамешка дацкае крыві. Пры досьледзе іхняе мовы аказалася, што ня гледзячы на тое, што яны жывуць саўсім асобна і ня ведаюць навет нічога аб істнаваньні іншых эскімоскіх плямёнаў, мова іхняя зьяўляецца толькі гаворкаю аспаўное эскімоскае мовы. З гэтага робяць вывад, што розныя плямёны эскімосаў сталецьці назад былі ў невядомых нам зносінах. Дзеля таго, каб гэта даказаць, былі зроблены раскопкі, якія далі цікавыя рэзультаты. Каля затокі Repulse былі знойдзены руіны старадаўняга селішча і больш як 2500 рэчаў, якія сьведчаць аб істнаваньні загінуўшае полярнае культуры. Былі знойдзены дамавіны, чарапы, шкялеты.

### Пальмы сярод лёду.

У паўночнай частцы Канады сярод лёду і скалаў, пакрытых вечным сьнегам, падарожнік інж. Шкотт адкрыў даліну, як у казцы, дзе клімат тропікальны, багатая расьліннасьць — шмат усялякіх палудзенных фруктовых дзярэў. Там ніколі ня бывае марозу, а ўзімку тэмпэратура не паніжаецца больш нуля. Шмат там дзікіх розных зьвяроў, асабліва багата прыгожых белых аленяў.

Інж. Шкотт правёў у гэтай даліне 3 гады, навукова працуючы і абдумваючы плян колёнізацыі гэтай даліны. Яна з усіх бакоў абкружана вялізнымі горамі, даўжынёй 20 міляў і шырынёй 2—3 мілі. Клімат там гэткі гарачы дзякуючы таму, што там ёсьць шмат гарачых крыніцаў.

### Чарвякі ў лёдзе.

Навуковая экспэдыцыя знайшла ў Амэрыканскіх горах арыгінальны род чарвякоў, якія жывуць выключна ў лёдзе і не пераносяць малейшай цяплыні, навет чалавечай рукі. Лёд у горах Дудвэль-Райксон выглядае як жывы, дзякуючы прысутнасьці ў ім масы чарвякоў. Яны чорныя, даўжынёй каля поўвяршка. Як усходзіць сонца, гэтыя чарвячкі хаваюцца ў глыб лёду, а як лёд таець, яны прападаюць. Вучоным не ўдалося яшчэ даведацца, чым яны пасілкуюцца.

---

# У С.С.Р.Р.

### Камуністыя ў вёсцы.

„Правда“ робіць **смотр сельскім ячэйкам.** Рэзультаты ня вельмі бліскучыя. Беспартыйны селянін К. Г. Д. піша з сяла Таганча (Кіеўская губ.): „У нашым сяле ёсьць і **партком** (партыйны камітэт) і ячэйка камсамолу, а таксама і сельбудынак (хата-чытальня)... У сялян злажылася нядобрая опінія аб сельбудынках. Яны самі ходзяць у іх рэдка і моладзь

---

І нятолькі сягоньня . . . (*чуваць стук*). О, ідзець ужо мусіць. (*Дзьверы шырока адчыняюцца, ўпадае добра падпіўшы Юрась*).

ЗЬЯВА 3.

**Янка** (*ў старану*). Нічога ня будзе: ён моцна выпіўшы . . .

**Юрась** (*ідзе няроўным шагам і застанаўліваецца, ўбачыўшы Янку*). А, ты, Янка, тутака! Можа і з газэтай. . Ха, ха!

**Янка** (*з сумам*). Юрась, Юрась! Што ты з сабой выраўляеш! Губіш моладасьць, браце! Ох!

**Юрась** (*сьлязьліва*). Даруй, брацятка, сягоньня трохі падпіў. Калі ведаеш, дальбо' не магу. На мяне і Разалька сварылася... Які я п'яніца? Яна так кажа, бо мяне ня любіць... Затое ад цябе, дык месца ня мае... А ты, Янка, любіш яе? Ну, скажы праўду, скажы... бо я на цябе зазлуюся!..

**Янка** Люблю, ці ня люблю — я аб жонцы ня маю часу думаць. Кінь піць, Юрась, дык можа знайдзеш ласку ў Разалькі...

**Юрась**. «Ен ня думае»... «Знайдзеш ласку»... Кепства! Яна за табой прападае... А я згінуў... І то праз цябе: ты тут віной...

**Янка**. Не кажы гэтак, Юрась! Сэрцу ніхто прыказаць ня можаць...

**Юрась** (*глуха*). «Сэрцу ніхто прыказаць ня можаць»!.. Так ты яе любіш! А, прызнаўся, махляр!

**Янка**. Пакінем лепей, Юрась, Разальку...

**Юрась**. Што, пакінем?! (*Моцна і злосна*). А, злавіўся, махляр!..

**Янка**. Я не махляр, Юрась! Я табе ніколі-ніколі ня лгаў. Уцям, браце, што я тут нічагутка не вінаваты... Паслухай, Юрась: я да цябе маю просьбу!..

**Юрась**. Ну, слухаю.

**Янка**. Відзіш, Юрась,—заўтра фэст і гульня ў мястэчку. Табе вялікая пакуса, ведаеш. Дык, калі ты кочаш быць мілым Разальцы, ня глянь заўтра ў чарку.

**Юрась** (*гнеўна*). Ідзі ты ад мяне ў балота! Я ніколі ёй мілым ня буду! Не хачу я твае намовы ні адмовы . . . Кінь гарэлку, кінь гарэлку: адна песьня! А бадай цябе гаручка! Ці-ж я ўжо апошні п'яніца, што ты мне ўсё толькі аб гарэлцы правіш . . .

**Янка** (*лагодна*). Бо яна адна, Юрась, цябе згубіць можа.

**Юрась**. Згубіць? Няхай губіць! (*Моцна*) А ты ўбірайся проч! . .

**Янка** (*адходзячы*). Апомніся, Юрась!

**Юрась** (*мяркуючыся*). Апомніся, апомніся! Дай мне Разальку, дык апомнюся . . . Не! відаць, яна мне ня суджана . . . Ен усіліў яе сэрца... Сягоньня, спаткаўшы мяне, кажа: Ты, Юрась, ізноў п'яны! А я ёй: Выпіў, кажу, на злосьць Янку! Нічога не адказала. Толькі апусьціла вочкі... А была ў гэту мінюту такая харошая, як анел божы. Гледзячы на яе, збрыдзіў я сабе ўсе дзяўчаты . . . Не, мусіць мне там ня месца . . . Яму яна раўня . . . Але чаму ня я, чым-жа ён лепшы? . . (*Задумчыва*): Што-ж я зраблю, калі яна яго любіць . . . Ах, злосьць мяне абымае пры мысьлі аб ім . . . Так, здаецца, даў-бы . . . «Ня пі заўтра! Ня пі!» От-жа нап'юся. І дам табе яшчэ за навукі . . . Або другіх падмоўлю. . . дзяруноўскіх хлопцаў . . . паслухаюць... А каб ты скіс: заўсёды мне прымерам служыць хоча. (*Падходзіць да шафы шукаючы гарэлкі*). Вылахтаў стары падла! (*Ідзець да стала. Задумваецца. Пасьля п'янавата пяе*):

(Працяг будзе).

